«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info,
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 34 (4594)**

7 мая 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




**Народная Воля**

***У сувязі са святамі і карэкціроўкай рабочага календара наступны нумар газеты «Народная Воля» выйдзе не ў аўторак 11 мая, а ў пятніцу 14 мая.***

***Рэдакцыя.***

**СА СВЯТАМ!**

# Няхай беларуская зямля больш ніколі не зведае вайны!

*Беларусь адзначае 76-ю гадавіну Вялікай Перамогі! Шкада, што ўсё меней і меней застаецца ў жывых тых, хто сваімі гераічнымі подзвігамі выратаваў Радзіму ад фашысцкага нашэсця. Паводле звестак Мінпрацы, на 1 красавіка ў нашай краіне налічвалася ўсяго толькі 3337 ветэранаў вайны – на 1469 чалавек менш, чым было годам раней.*

*Час не спыніць, але ён не павінен прытупіць памяць людскую пра тое, якія цяжкія выпрабаванні выпалі на долю папярэдніх пакаленняў, колькі чалавечых жыццяў давялося пакласці на алтар Перамогі! Беларусь недалічылася ледзь ці не кожнага трэцяга свайго жыхара. У полымі вайны былі знішчаны 9200 населеных пунктаў.*

*Няхай беларуская зямля больш ніколі не спазнае нападу варожых сіл!*

**ЧУЛІ?**

## «Вялікая сямёрка» заклікала ўлады Беларусі па-новаму правесці прэзідэнцкія выбары і вызваліць несправядліва зняволеных

Краіны «Вялікай сямёркі» – ЗША, Вялікабрытанія, Італія, Канада, Германія, Францыя і Японія – заклікаюць улады Беларусі правесці новыя прэзідэнцкія выбары пад міжнародным назіраннем і вызваліць усіх людзей, якія несправядліва знаходзяцца ў зняволенні.

Пра гэта гаворыцца ў апублікаваным выніковым камюніке, прынятым на саміце міністраў замежных спраў краін G7 у Лондане.

Кіраўніцтву Беларусі прапанавана ажыццявіць рэкамендацыі незалежнай экспертнай місіі Арганізацыі бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе, якая выступіла за новыя прэзідэнцкія выбары.

*«Мы глыбока заклапочаны палітычным крызісам, а таксама крызісам у галіне правоў чалавека, якія адбыліся пасля сфальсіфікаваных прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі ў жніўні 2020 года»*, – адзначаецца ў камюніке.

Удзельнікі саміту таксама заклікалі Мінск *«уступіць у змястоўны дыялог з усімі часткамі грамадства, у тым ліку з сапраўднымі лідарамі апазіцыі, і прыняць прапанову старшыні АБСЕ аб пасрэдніцтве для выхаду з палітычнага крызісу»*.



100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ

# «Вось бы гэты язычок у прыбіральню на цвічок»

Зорачку славы журналісткі **Людмілы Гладкай** доўга прыхоўвала захмаранае неба. Здаецца, і служыла яна ў адпаведным месцы – у ведамаснай міліцэйскай газеце, дзе зорачкі позна ці рана атрымліваюць усе. А вось жа не фарціла – хоць галавой аб сценку біся. Усе зорачкі пралеталі міма, прызямляючыся на чыесьці пагоны.

Захмаранае неба над галавой шэранькай крымінальнай хранікёршы неспадзявана праяснілася ў мінулагоднім жніўні, калі ў дзяржаўных СМІ рэзка ўзрос попыт на пішучую брацію без тармазоў і стоп-сігналаў у галаве. Іх супрацоўнікам дазвалялася ўсё: хлусня, абразы, падтасоўкі, маніпуляцыі, перакручванне фактаў, паклёпы. Гэтая рабочая атмасфера і стала для Гладкай найспрыяльным асяроддзем. Яна перайшла на працу ў «СБ. Беларусь сегодня» і проста расцвіла, як лілея ў застаялай, пакрытай жабурыннем сажалцы.

*«Минск благодаря действиям силовиков очищен от мрази»*, – тачыла адманікюраныя на ранейшай працы кіпцюрыкі аб камп'ютарную клавіятуру ў мары свайго жыцця – «прэзідэнцкай» газеце – Людміла Гладкая, расказваючы пра чарговы масавы хапун.

*«Газовые баллончики, пневматика, ножи, металлическме трубы, б-ч-б символика и, возможно, наркотики»*, – без ценю сумнення на загад начальства «ўзбройвала» яна мірныя шэсці чым папала, што ў галаву прыходзіла.

А калі ва ўласным двары быў забіты Раман Бандарэнка, кіпцюрыкі цынічна набралі на клавіятуры словазлучэнне *«сакральный труп»*. Маўляў, забойства тое таемна здзейснілі ўсё тыя ж *«мрази»* з апазіцыі, каб згуртаваць свае разрозненыя шэрагі над ахвярай рэжыму...

Хто ветру служыць, таму дымам плацяць – гаворыць народная прыказка. Але, надыхаўшыся тым заробленым «дымам», можна ўчадзець да страты прытомнасці. Падобна на тое, што Гладкая няслаба ўчадзела. І ў такім стане днямі ў сваім тэлеграм-канале адгукнулася на нядаўнюю калонку Марыны Коктыш пра зладжаную ўладай блакаду «Народнай Волі».

Колькі ў аслабленым кругласутказай інфармацыйнай вайной арганізме Гладкай $CO_2$, маркуйце самі, вось яе водгук: *«Представьте ситуацию. 4 мая 1945 года. Недобитый рупор НСДАП «Фёлькишер беобахтер» пишет полную слез и обиды на Красную Армию заметку, что Совинформбюро и союзники отказываются печатать агитлисток «Штурмовик»*.

Прачытаўшы гэтае трызненне, перадрукаванае, дарэчы, «Желтыми сливами» і другімі пахнучымі фекаліямі тэлеграм-каналамі, хочацца прамыць вочы і прадэзінфікаваць рукі. Ад такіх вар'яцкіх параўнанняў на тым свеце ў пякельнай смале, відаць, зайздросна застагнаў Гебельс – у яго прапагандысцкай машыне гэткіх работнічкаў яўна не хапала.

Параўнаўшы «Народную Волю» з фашысцкімі газетамі, Гладкая, між іншым, шпурлянула важкі камень у агарод Міністэрства інфармацыі. Бо, нягледзячы на ўсе праблемы з друкарскім варштатам, «Народная Воля» працягвае заставацца выданнем легальным – мае адпаведную дзяржаўную ліцэнзію. Гэткую самую, як працадаўца Гладкай – «Беларусь сегодня».

Ведае пра гэта гора-журналістка? Ведае. І тым не менш, дагаджаючы сваім апекунам, валіць без сораму на любую старону. Не забываючыся тузанўць за вяровачку, каб «жоўтыя злівы» разнеслі яе «прадукцыю» па ўсёй тэлеграм-каналізацыі.

А перад сваім заечым наскокам на «Народную Волю» Людміла Гладкая абвясціла свяшчэнную вайну «газават» парталу «TUT.BY» – напусціла чаду і на яго. Яе артыкул у «СБ» гучаў як прысуд – «О предателях, экстремистах и их подпевалах». І заканчваўся канкрэтным заклікам: *«Пора признать его (TUT.BY) экстремистским – в интересах национальной безопасности»*.

Нагадаю: гэта словы не пракурора на судовым разбіральніцтве, а журналісткі дзяржгазеты з рэгістрацыйным нумарам 1 (бессаромна забраным адносна нядаўна ў куды больш старэйшай «Звязды»). Здавалася б, калі не поп, дык не ўбірайся ў рызы. І без цябе рызаносцаў хапае. Але Гладкая, відаць, вырашыла: калі буду бісці, то лепш за абедзве нагі. І – зноў пускае ў ход і кіпцюрыкі, і язык (спатрэбіўся і на БТ).

Што ж, я не крываважэрны, і жадаю не паважанай мною Людміле Гладкай жыць доўга. Але калі ўсё ж прыйдзе пара развітацца з гэтым светам і згаданы вышэй сумна вядомы доктар прапаганды пакліча яе ў сваю кампанію, што застанецца?

У падшыўцы «СБ» віскатлівы радок і на беларускай зямлі грудок?

А на грудку тым хто што напіша?

Я не вялікі спецыяліст у пахавальнай сферы, але ў дадзеным выпадку, здаецца, прыйшоўся б да месца кароценькі верш Кандрата Крапівы пра адзін вёртка-паслужлівы язычок: *«Вось дык гладзіць! / Вось дык ладзіць! / Вось дык ліжа! / Ніжай! Ніжай! / Яшчэ вазьмі / вось тут лізні / разоў ля ста / каля хваста... / Вось бы гэты язычок / у прыбіральню на цвічок!»*.

Не дай Бог заслужыць такую эпітафію.

ИЗ СКАЗАННОГО...

## Александр ЛУКАШЕНКО:

***«Отследите, чтобы эта газета («Народная Воля») была в моей папке каждое утро».***



*(Цитата из стенограммы пресс-конференции для белорусских и зарубежных СМИ, 2015 год.)*

ТАМ, ЗА КРАТАМІ

# «Ён ніколі не губляе добрага настрою...»

*9 мая споўніцца восем месяцаў, як знаходзіцца за кратамі юрыст **Максім Знак**, які ўваходзіў у штаб прэтэндэнта на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь **Віктара Бабарыкі**.*



*Бацька Максіма, **Аляксандр Знак**, кажа, што сын аптымізму ў няволі не губляе. За той час, што адвакат знаходзіцца за кратамі, ён напісаў больш за 90 апавяданняў, дзясяткі вершаў і песень, больш за 3 тысячы лістоў і прачытаў больш за 150 кніг.*

*А вось што распавёў пра **Максіма Знака** грамадскі актывіст **Алег Корбан**, які ў сталічным СІЗА на Валадарскага быў з ім у адной камеры.*

– Было гэта ў той час, калі мяне кінулі ў адну з самых горшых камер ізалятара, якая знаходзіцца ў канцы глухога склепа (гэтую частку корпуса называюць «Шанхаем»). Сцены гэтай маленькай камеры пакрыты грыбком і цвіллю. Праз тыдзень знаходжання там пачынаецца кашаль, чырванее і хрыпіць горла. Пастаянныя наведвальнікі камеры – спрытныя мышы і пацукі.

Праход катастрафічна вузкі (усяго 75 сантыметраў), месцаў, каб хадзіць ці рабіць фізічныя практыкаванні, няма. А за дзвярыма «хаты» – дзяжурны пост, што дазваляе наглядчыкам няспынна кантраляваць зняволеных. Напрыклад, каб у перыяд з 6.00 да 22.00 ніхто не прылёг адпачыць.

На шчасце, у нашай камеры быў юрыст, які ўжо не раз пісаў звароты і просьбы аб паляпшэнні ўмоў утрымання, трымаў галадоўку, змяшчаўся на чацвёра сутак у карцар. Але гэта не зламала яго дух, ён не стаў чакаць, калі адміністрацыя СІЗА нарэшце праявіць клопат і чалавечнасць, таму пісаў новыя і новыя звароты.

І вось нечакана для ўсіх праблема стала вырашацца! Спачатку нам прынеслі новы савок для ўборкі. А праз некалькі дзён усіх нас нечакана перасялілі ў іншую камеру – больш прасторную, дзе нядаўна ажыццяўляўся рамонт.

Імя гэтага юрыста – Максім Знак. Ён ніколі не губляе добрага настрою – нават у дзень вынясення яму абсурдных абвінавачанняў па дадатковых пунктах крымінальнай справы. Максім заўжды вяртаецца ў камеру ў бадзёрым настроі, з усё той жа непахіснай верай у перамогу праўды і справядлівасці!

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

ГРОМКАЯ ТЕМА

## Анна ЧИЖ:

# «Все переживают за него...»

*Юрий Чиж родился и вырос в деревне Соболи, что недалеко от города Береза Брестской области. Там живет родственница основателя империи «Трайпл» Анна Степановна Чиж – вдова его родного брата Евгения, который умер около десяти лет назад. «Народная Воля» поинтересовалась у нее последними новостями про известного бизнесмена.*

Как сообщала «Народная Воля», информация о том, что задержан известный бизнесмен, основатель компании «Трайпл» Юрий Чиж, появилась 17 марта, а задержали его 15-го. Была информация, что к Чижу якобы есть претензии по поводу неуплаты налогов и что нынешнее уголовное дело будто перекликается с тем, что было возбуждено в отношении него в 2016 году. Однако официально информации по делу Чижа по-прежнему нет: все спецслужбы и пресс-службы силовых ведомств комментируют всё что угодно, но только не эту тему.

*«Пока ничего не слышно*, – вздыхает Анна Степановна Чиж. – *Абсолютно никаких новостей! Он по-прежнему сидит. Я сама переживаю.*

*Как раз в марте Юра ко мне приезжал. У меня тут и с печкой проблемы возникли, и с домом. Говорил: мол, потом подъеду – и всё сделаем. Он полетел в Москву, а когда вернулся, его в аэропорту задержали»*.

По словам Анны Степановны, его обвиняют в неуплате налогов.

*«Мы перед его поездкой в Москву разговаривали, я накануне узнала новость, что у «Трайпла» заправки забрали, а он говорит: «Ничего, всё будет нормально!»*, – вспоминает она тот разговор с Юрием Чижом. – *Ну сколько уже можно брать с одного человека? Ну что ему, отдать всё и идти с сумкой всё начинать с нуля? Это не по-людски как-то...*

*Я, когда была на свадьбе в Минске, племянника женили, мы заночевали в Минске. Он нас в свой «Раковский бровар» привез завтракать, а сам поехал к Лукашенко косить. Всё нормально было в ту пору! А потом резко всё пошло наперекос...»*

В 2016 году Юрий Чиж тоже угодил в следственный изолятор. Анна Степановна говорит, что после той отсидки он рассчитался с государством.

*«Он очень много миллионов отдал тогда, но рассчитался до копейки! Чего они сейчас от него хотят? Наверное, чтобы всё отдал. Всё, что есть. Чтобы ничего у него не осталось. Я такого не понимаю...»*

Анна Степановна говорит, что у нее сейчас нет связи с Юрием Чижом, писем от него тоже нет: «Не разрешают, наверное».

*«Все переживают за него*, – говорит она. – *И жена, и дети. У Юры недавно третий внук родился – у старшего сына. Он, в последний раз когда приезжал, рассказал эту новость про внука. Накануне 8 марта я его как раз видела.*

*Младший сын пока передумал жениться, а у дочери Татьяны еще детей нет, она недавно только замуж вышла.*

*Юра – он простой человек. И из простой миски поест, и по-простому поговорит, чем может – всегда поделится. А знаете, сколько он всего для нашей деревни сделал? Ему очень многие благодарны! У нас бесплатная баня благодаря ему. И кто бы к нему ни обратился – он никому не отказывал, всегда помогал! Он много людям отдавал. Причем никак это не афишировал.*

*Вы меня спрашиваете, чем закончится это дело? Я одно могу сказать: сейчас он будет сидеть, но не отдаст то, что от него требуют. Потому что это неправильно, но не справедливости. Он всю жизнь работал. Даже на Север ездил к моему брату. Он всегда старался заработать копейку, чтобы помочь матери, помочь братьям, племянникам, помочь всем – у него такая натура»*.

**Марина КОКТЫШ.**

СІТУАЦЫЯ

# Гендырэктар нарвежскай кампаніі выйшаў на сувязь з салігорскімі страйкамаўцамі

*Нагадаем: нарвежская кампанія Yara – адзін з буйнейшых сусветных пастаўшчыкоў мінеральных угнаенняў і адзін з ключавых кліентаў Беларускай калійнай кампаніі.*

Апошнім часам Yara імкнулася дасягнуць пазітыўных змен праз дыялог з кіраўніцтвам Беларускай калійнай кампаніі і «Беларуськалія».

Раней страйкам «Беларуськалія» звярнуўся да нарвежскай кампаніі з просьбай не падпісваць кантракт да выканання кіраўніцтвам прадпрыемства вылучаных страйкамаўцамі патрабаванняў.

– Днямі па відэасувязі адбылася сустрэча з генеральным дырэктарам Yara **Свенсам Турэ Холзетэрам** пры ўдзеле карпаратыўнага прадстаўніка кампаніі **Гейра А.Сундбо**, – распавёў «Народнай Волі» лідар страйкама ААТ «Беларуськалій» **Анатоль БОКУН**. – Гэта, дарэчы, была ініцыятыва нарвежскага боку.

Мы праінфармавалі нарвежцаў пра падзеі, якія адбываліся з удзельнікамі страйку пасля 1 сакавіка (у гэты дзень апошні раз была відэасувязь), а гендырэктар Yara паведаміў нам навіну: іх прадстаўніка вырашана дэлегаваць у Салігорск. На «Беларуськаліі» ён будзе знаходзіцца і маніторыць сітуацыю каля паўгода.

Трэба адзначыць, што прадстаўнікі нарвежскай кампаніі ўжо праводзілі на прадпрыемстве аўдыт сістэмы аховы працы, і я папрасіў паказаць нам вынікі праверкі. Пакуль такую інфармацыю нам не прадаставілі.

**– Чым канкрэтна будзе займацца прадстаўнік кампаніі Yara на «Беларуськаліі»?**

– Відаць, проста назіраць за сітуацыяй. У нарвежцаў пэўны план ужо ёсць, і яны яго прытрымліваюцца.

**– Раней вы звярталіся да нарвежскай кампаніі з просьбай не падпісваць кантракт да выкананя кіраўніцтвам прадпрыемства вылучаных страйкамаўцамі патрабаванняў. Ёсць нейкі адказ з гэтай нагоды?**

– Наколькі мы зразумелі, яны якраз-такі дзейнічаюць па сваім плане, і калі гэтыя дзеянні ні да чога не прывядуць, эфекту не будзе, то альбо нарвежцы скасуюць кантракт, альбо кіраўніцтва «Беларуськалія» прызнае, што няма перспектыў для далейшага дыялогу, супрацоўніцтва і пошуку кампрамісных рашэнняў.

Генеральны дырэктар Yara Свенс Турэ Холзетэр кожны раз нагадвае, што скасаванне кантракта – гэта сыход назаўсёды. Таму нарвежцы і імкнуцца ўсё-такі знайсці кампраміс.

**– Прадстаўнікі страйкама ў дыялог паміж кіраўніцтвам нарвежскай кампаніі і «Беларуськалія» не ўключаны?**

– Мы казалі, што для ўсебаковага і аб'ектыўнага разгляду пастаўленых пытанняў трэба ўключыць у перамоўны працэс удзельнікаў страйку, але пакуль у прадстаўнікоў нарвежскай кампаніі наша ініцыятыва, скажам так, не знаходзіць разумення.

Свенс Турэ Холзетэр падчас апошняй сустрэчы заявіў, што фармат дыялогу не прадугледжвае ўдзелу ў ім нашых прадстаўнікоў. Хаця гэта, безумоўна, няправільна.

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 7 МАЯ 2021 г.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

### Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Беда – в Беларуси исчезают города

*Угадайте, чьи это слова: «Будет катастрофа, если мы не будем прибавлять с населением». И еще: «Что такое 9,5 миллиона или 10 миллионов? Это ничто. На первом этапе нам надо миллионов 15, и до 20 дотягивать. Тогда мы будем как Европа по плотности населения».*

Загадка не из сложных. Полагаю, вы, читатели, правильно назвали фамилию автора этих цитат. Хотя желание его не оправдывается. Все происходит наоборот. С 1994 года резко стала расти естественная убыль населения. Тогда на 1 января, по данным Белстата, нас в Беларуси насчитывалось 10.367.300 человек, а на 1 января 2021-го – уже 9.349.645. Страна потеряла миллион с лишним (!) человек. Белорусская нация вымирает. Причем ускоренными темпами. Если в 2019 году нас стало меньше на 19 тысяч человек, то в коронавирусном 2020-м – на 60 тысяч! С демографической карты страны только за год, считай, исчез целый город типа Жодино или Слуцка. Так Беларусь страна для жизни или для чего?

Особенно убыль населения и эмиграция белорусов в соседние страны усилились после августа-сентября минувшего года – политических событий, связанных с президентскими выборами и последовавшими репрессиями против людей с активной жизненной позицией.

С ухудшением демографической ситуации, соответственно, нарастает негативная динамика на рынке труда. На начало этого года в экономике было занято 4295,5 тысячи человек, на 1% меньше, чем год назад. Это рекордно низкий показатель занятых в стране. Только за первый квартал текущего года наниматели средних и крупных предприятий уволили 143,5 тысячи человек. С учетом принятых работников чистый отток кадров с этих предприятий составил 11,8 тысячи человек. Даже в Минске не набралось и 90 принятых человек на 100 уволившихся.

Посмотрим, как обстоят дела с людьми, занятыми на крупных промышленных предприятиях, которые отчитались о своей работе за 2020 год.

Выручка БЕЛАЗа составила 1,02 миллиарда рублей, что на 38% меньше, чем в 2019 году. Чистая прибыль сократилась в 8 раз – с 265 миллионов рублей до 30,8 миллиона. Если в 2019 году на предприятии работало 11.185 человек, то в 2020-м – 10.614.


Иллюстративное фото.

Выручка МТЗ по итогам 2020 года выросла на 9,7% до 1,77 миллиарда рублей, но чистая прибыль упала в 12 раз – с 99,7 миллиона до 8,2 миллиона. Мизер, но всё же. Численность работающих в последние годы также уменьшается.

МАЗ тоже прибавил в выручке – с 1,3 миллиарда до 1,49 миллиарда рублей в 2020 году. Завод завершил год с символической чистой прибылью в 142 тысячи рублей. В плюсе завод впервые с 2013 года. А вот в численности работников потерял: 15.599 человек работало годом ранее и 15.387 – в 2020 году.

Минский завод колесных тягачей (МЗКТ) в 2020 году против 2019-го в выручке потерял: она стала на 12,5%. Чистая прибыль составила всего 7,2 миллиона рублей. Потерял и в людях: 4541 человек работал в 2019 году, в 2020-м – 4234 человека.

БМЗ вышел из убытков в скромный плюс: чистая прибыль составила символические 36 тысяч рублей. Но его долги оказались настолько неподъемными, что уже в начале 2021 года бюджет спасал его от полного банкротства. Правда, по числу занятых завод прибавил.

Потеряли в людях и «Нафтан», и Мозырский НПЗ, и «Гродно Азот». Статистика не говорит нам, сколько человек с предприятий Беларуси было уволено по политическим причинам, ввиду несогласия со сфальсифицированными результатами выборов президента. Некоторые забастовщики уехали за границу, другие пополнили ряды безработных.

Число безработных по белорусскому административному учету на 1 апреля 2021 года составило 8,6 тысячи человек. Это те, кто согласился зарегистрироваться в местных центрах занятости, выполнять затем общественные работы и получать мизерное пособие по безработице. Подавляющая часть безработных на эти условия не идет. Поэтому, согласно методике подсчета МОТ (Международной организации труда), в Беларуси обнаружилось 207,9 тысячи человек, которые по факту отнесли себя к безработным. Относительный уровень безработицы составил 4,2%. Средний возраст безработных – 38,5 года. Почти 60% – это мужчины. В общей численности безработных доминируют лица с профессионально-техническим и общим средним образованием. На 2 мая в общереспубликанском банке вакансий значились 81,4 тысячи вакансий. Из них больше половины – с зарплатой до 600 рублей («грязными»).

По мнению аналитиков, в ближайшее время ситуация на рынке труда в Беларуси будет только ухудшаться. Как правило, зарплаты продолжают падать в реальном и долларовом выражении. Если правительство отчитывается о росте ВВП за первый квартал на 0,9%, тогда почему вырос против плана и стал рекордным дефицит бюджета? Каким образом при росте ВВП бюджет недобирает столько налогов, что вводятся новые поборы, к примеру за пересечение границы на собственном авто? Отмечаются сокращения бюджетников даже среди чиновников. Беларусь по уровню минимальной зарплаты опустилась на последнее место в наиболее бедной Восточной Европе, которое ранее занимали Украина и Молдова.

Экономико-политический кризис в Беларуси продолжается. Давление власти на простых людей стало беспрецедентным. Усиливается отток за границу айтишников и других высококвалифицированных кадров, абитуриентов и студентов – в зарубежные вузы. Например, в Польше учится уже 10 тысяч белорусских студентов. И не факт, что все они вернутся домой. Всё это усугубляет и без того негативные демографические тенденции. В обществе царят депрессия и апатия. Без базовых человеческих свобод, в том числе, свободы открыто выражать свое мнение и политическую позицию, страна не может нормально развиваться и быть конкурентоспособной. Ввиду внутренних репрессивных мер пессимистические ожидания бизнеса, который обещают «выжигать каленым железом», также негативно влияют на экономику. Нарастают риски административного и уголовного преследования по политическим мотивам, ужесточается уголовное законодательство, усиливается недоверие граждан к правовой системе. В таких условиях потери населения и человеческого капитала в стране становятся необратимыми. И это – большая беда!

---

РЭГІЁН

# Касметыку Nivea – на склад, машыны Škoda застаюцца ў салоне

*5 мая ў Гродне, як і па ўсёй Беларусі, з прылаўкаў магазінаў знікла прадукцыя касметычнай фірмы Nivea. А вось у адзіным у Гродзенскай вобласці салоне Škoda чатыры розныя маркі гэтага аўтамабіля застаюцца выстаўленымі, праўда, іх продаж часова прыпынены.*

**Спачуванне пакупнікам**

У гродзенскіх «Еўраоптах» прадукцыю Nivea пачалі здымаць з паліц яшчэ ў аўторак 4 мая. На паліцах утварыліся заўважныя пустоты, праўда, іх хутка запоўнілі іншай касметыкай. Маладая прадаўшчыца Аліна распавяла, што нейкіх адмысловых скідак на Nivea ў краме напярэдадні не было.

Сталая пакупніца, падслухаўшы нашу размову, заўважыла: цяпер прадукцыя будзе пыліцца на складзе да лепшых часоў.

– Пакуль нашы палітыкі са сваімі амбіцыямі не разбяруцца – нічога не зменіцца. Глядзіш, хутка і алей імпартны прыбяруць, і макароны, не толькі касметыку, – раздражнёна заўважыла мая выпадковая суразмоўніца.

У цэнтры горада ў адной з крамаў «Міла» прадаўцы 5 мая раніцай запаўнялі пустыя паліцы, на якіх раней стаяла прадукцыя Nivea, іншымі цюбікамі і флакончыкамі. Яны распавялі, што за некалькі дзён да таго, як стала вядома, што касметыку Nivea здымаюць з продажу, пакупнікі ахвотна куплялі яе, хаця ніякіх адмысловых скідак не было.

– Гэты брэнд заўсёды карыстаўся папулярнасцю, – кажа Валянціна. – Асабліва добра разыходзіліся крэмы ўніверсальныя. Мой муж працуе на будоўлі, то ўвесь халодны перыяд імі карыстаўся.

Што будзе з той прадукцыяй, якая не рэалізавана, прадаўцы не ведаюць.

– Мне здаецца, што гэта часовая з'ява, – мяркуе адна з жанчын. – Ну не можам жа мы па ўсёй краіне столькі прадукцыі выкінуць на сметнік.

Дарэчы, на гэтае пытанне адказу не дае і пастанова ўрада.




**У аўтасалоне пакуль перастрахаваліся**

У адзіным у Гродне салоне Škoda ўсе на працоўных месцах. Салон навюткі, сучасны, прыгожыя дзяўчаты прапануюць каву, каб не сумна было чакаць, пакуль вызваліцца менеджар па продажы. Выстаўлены і чатыры маркі аўтамабіля. Праўда, каля кожнага з іх шыльдачка з надпісам, што продаж прыпынены.

Менеджары па продажы патлумачылі: гэта звязана з тым, што 5 мая ўступіла ў сілу пастанова Савета міністраў №240 ад 23 красавіка 2021 года. І цяпер, мяркую, высвятляецца, ці датычыць гэта пастанова аўтамабіляў Škoda расійскай вытворчасці.

– Справа ў тым, што мы не прадаём мадэль Superb, вытворчасць якой наладжана ў Чэхіі, а гандлюем выключна аўтамабілямі, што выпускаюць у Расіі, – заўважае адзін з супрацоўнікаў салона.

І тлумачыць, што вытворцам машын Škoda для беларускага рынку з'яўляюцца кампаніі «Фольксваген Рус» у горадзе Калуга і «Группа ГАЗ» у Ніжнім Ноўгарадзе.

На маё заканамернае пытанне, чаму тады прыпынены продаж аўтамабіляў, адзін з менеджараў адказаў: мяркую, да атрымання больш дакладных дадзеных папросту перастрахаваліся, каб пазней не мець праблем.

Дарэчы, ён жа заўважае, што ў адзіным на Гродна і вобласць салоне Škoda продажы ўвесь час раслі, і праста немагчыма ўявіць, што іх могуць спыніць.

Тым часам дылеры ў Мінску спрабуюць высветліць у чыноўнікаў, ці змогуць яны далей гандляваць аўтамабілямі Škoda расійскай вытворчасці.

***

Нагадаем чытачам, што такім чынам беларуская ўлады вырашылі адпомсціць замежным кампаніям Nivea і Škoda за тое, што яны аднымі з першых адмовіліся выдзяляць сродкі на рэкламу чэмпіянату свету па хакеі, які павінен быў прайсці ў Мінску.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

*Гродна.*

---

СУД

# «Дзейнічаў з дапамогай рупара...»

*Суд Першамайскага раёна Мінска вынес прысуд 18-гадоваму **Мацвею Будніцкаму**.*

Яго прызналі вінаватым паводле артыкула 342 Крымінальнага кодэкса і асудзілі на 2 гады абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу – так званую «хімію». Іск на карысць «Мінсктранса» (каля 18 тысяч рублёў) вылучаны ў асобную грамадзянскую вытворчасць.

Мацвей – студэнт трэцяга курса Мінскага каледжа прадпрымальніцтва, працуе экспедытарам.

Хлопца прызналі вінаватым у тым, што 4 кастрычніка на праспектах Машэрава і Пераможцаў, а таксама вуліцах Прытыцкага, Любімава, Сурганава, Кальварыйскай і Прылуцкай ён браў актыўны ўдзел у масавым мерапрыемстве. Маўляў, гэты ўдзел быў спалучаны з непадпарадкаваннем супрацоўнікам міліцыі, гучнымі воплескамі рукамі, хлопец *«дзейнічаў сумесна і ўзгоднена ў групавых дзеяннях, з выкарыстаннем рупара»*.

Згодна з абвінавачаннем, гэта пацягнула парушэнне працы транспарту і прадпрыемстваў.

**Віктар ШПАК.**



КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## На сваёй уласнай кухні еж цукеркі – хоць апухні!

Каля Камароўкі мінчук пачаставаў сваю дзяўчыну цукеркамі, выrabленымі на фабрыцы «Камунарка». Яго адразу ж затрымалі людзі ў форме і склалі пратакол «за пікетаванне шляхам раздачы цукерак у бел-чырвона-белай упакоўцы». Суд арыштаваў «парушальніка» на 6 сутак.

Які вар'яцкі зараз час!
І знаюць нават нашы дзеткі,
Што ўсё крамольным стала ў нас:
Сцяжкі, штаны, шнуркі,
шкарпэткі…
Пакуль мы ўцяміць не змаглі,
Што за крытэрыі і меркі
І што рабіць усім, калі
Пад забаронай і цукеркі.
…Гадоў, напэўна, дваццаць пяць
Крычаць плакаты ўсёй краіны,
Што беларускае купляць
У крамах кожны з нас павінны,
Каб працвітаў наш родны край,
Не чахлі фабрыкі-заводы.
(Той заклік правільны, бадай,
Хаця «працуе» не заўсёды.)
Мінчук – сапраўдны патрыёт:
Ігнараваў дзяцюк даляры
І пастаянна, з года ў год,
Купляў айчынныя тавары.
Дый нат віно ці самагон
Стараўся піць з тутэйшай чаркі…
Таму зусім не ўздзіў, што ён
Купіў цукеркі «Камунаркі»,
Каб вечароваю парой
Іх падарыць сваёй сяброўцы:
У гэты дзень спатканне ёй
Прызначыў ён на Камароўцы.
(Хоць любяць быццам бы жанкі,
Калі ім дарацца букеты,
Ды, мабыць, трохі не такі
Мінчук прабеларускі гэты.
Прабачыць можна дзецюку
Яго нязвыклыя манеры.)
Калі дарыў, дык за руку
Схапілі міліцыянеры.
Сказалі:
– Пойдзеш да суддзі,
Дзе лёс цябе чакае горкі,
Бо на цукерках – паглядзі! –
Чырвона-белыя абгорткі.
Пікет, выходзіць, зладзіў ты…
– Ды то ж цукеркі «Камунаркі»! –
Пачулі бравыя «мянты». –
На іх заўжды малюнак яркі…
Службовец даў яму адказ:
– Ты еж цукеркі – хоць апухні,
Ды не сярод народных мас,
А на сваёй уласнай кухні.
І суд адбыўся сапраўды,
І вынік быў задужа гадкі,
Бо «бунтароў» цяпер суды
Не выпускаюць
з «мёртвай хваткі»:
Ніхто ад кары не ўцячэ,
Калі ён на судовай лаве.
Які кур'ёз чакаць яшчэ?
Здаецца мне, што неўзабаве
Падсудным можа стаць і муж,
Што нёс дамоў па завядзёнцы
Букет з чырвона-белых руж,
Каб падарыць любімай жонцы.
***
Відаць, не спіцца па начах
Спецыялістам з «Камунаркі»,
Бо адчуваюць, пэўна, страх:
Яшчэ і ім дадуць у каркі…

### Асмялела

Жанчына хваліцца суседу:
– З начальнікам вяла бяседу.
Была залішняю апаска:
На мне знаходзілася маска –
Не працавалі тармазы.
Дык пазяхнула два разы,
Язык аднойчы паказала,
Аднак таго, здалося, мала.
Калі нічога не відно,
Дык тройчы плюнула ажно.

### Як застацца ў памяці

Госці ўсе нясуць на імяніны
Падарункі розныя, але ж
Застанешся ў памяці дзяўчыны,
Як нічога ёй не прынясеш…

### Мемуары

Свае ўспаміны шмат людзей
«Стругае» –
Нават і ноздары.
І чымся памяць карацей,
Тым больш даўгія мемуары…

АБСУРД

# Идеологический «загул»

*Обмазать масляной краской стелу – это как запустить частушки во время панихиды.*





Марина Давыдик.

Благородный гранит, строгий памятник-стелу в память о соотечественниках, погибших в годы Великой Отечественной войны, начальники районного центра Мосты Гродненской области выкрасили в красный и зеленый цвета. И что получилось? Пограничный столб! Ярморочное безвкусие и полное эстетическое бесчувствие. Но, похоже, районное чиновничество и его глава **Юрий Валеватый** действительно считают, что освежили и благоустроили окружающую среду. А выглядит так, будто люди при должностях вошли в настоящий раж, желая подтвердить одно-единственное – лояльность верховной власти.

Ну, перестарались, с кем не бывает…

Тем не менее такая грубая антихудожественная прыть, на мой взгляд, наносит вред системе, которой служат чиновники. Потому что это уже курам на смех. В конце концов, пусть бы районные чиновники присмотрелись к столице, если сами не понимают и не чувствуют, что такое гармония и стиль. Стела «Минск – город-герой» до сих пор стоит такая, как ее создали авторы: светло-серая, монотонная. И республиканские власти – а полномочия у них безграничные! – не пытаются в угоду политическому моменту исправить авторский замысел. Такого же серого, стального цвета, как задумывалось, остались штыки на Кургане Славы. Да и монумент Победы у вечного огня еще никто не придумал «освежать» к празднику красно-зеленым колером.



Юрий Валеватый.

Поэтому хочется попросить у некоторых активистов, а конкретно у заместителя председателя Мостовского райисполкома **Марины Давыдик**, курирующей развитие социальной сферы района (а значит, вопросы культуры в том числе), показать диплом о базовом образовании. Уважаемая Марина Осиповна, вы искусствовед? Архитектор? Культуролог? Ландшафтный дизайнер? Нет. Насколько известно, вы окончила Белорусский государственный педагогический университет имени М.Танка, работали в Мостах в школе №5 (кажется, преподавали труд и географию), были директором центра социального обслуживания населения. Видимо, проявили себя достойно, пошли на повышение, стали занимать одну из руководящих должностей в райисполкоме. Вполне возможно, что в социальных вопросах опытны и компетентны и отдаетесь государственной службе всей душой. Но зачем вторгаться в область монументального искусства, в которой вы явно не специалист? В которой кроме природного таланта (а это само по себе большая редкость и ценность) нужны большие специальные знания. Чтобы ими обладать в полной мере, люди учатся десятилетия! Кстати, у вас в районе есть архитектор – вы с ним советовались? В стране существует Министерство культуры – вы там проконсультировались? Или хотя бы в Гродно позвонили?.. А взять да обмазать (другого глагола не подберу) масляной краской стелу – это как запустить частушки во время панихиды. Вы просто разрушили гармонию окружающей среды. Хочу заметить, что, если бы стелу выкрасили в бело-красно-белый цвет, я сказала бы точно то же: безобразие и безвкусица!

Чтобы попробовать вас убедить, что сделанное – ошибка, я попросила известных белорусских скульпторов и архитектора, чьи работы украшают столицу и другие города Беларуси, прокомментировать этот вопиющий случай идеологического «загула».

### Владимир СЛОБОДЧИКОВ, заслуженный деятель искусств, лауреат премии Союзного государства в области литературы и искусства, профессор Белорусской государственной академии искусств:



– Это плохой вкус и дилетантизм. А еще очевидное нарушение юридических норм. Изменение памятника может быть произведено только после обсуждения со специалистами, а не когда захотелось начальнику. Никакой начальник не имеет права приказать покрасить стелу, это не может быть личной инициативой кого бы то ни было. Все памятники, памятные знаки и скульптуры, прежде чем появиться в любом городе страны, проходят профессиональную экспертизу в Художественном совете по монументальному и монументально-декоративному искусству при Министерстве культуры. Поэтому их изменения тоже надо согласовывать с монументальным советом. В районном городе Мосты, наверное, есть главный архитектор – он, человек с высшим образованием, разве не знает об этом? Почему он допустил этот китч? Почему допустил порчу стелы областной совет по монументальному искусству? Или его не поставили в известность? Я считаю, здесь вопрос лежит в юридической плоскости гораздо больше, чем в эстетической.

### Сергей БОНДАРЕНКО, член Белорусского союза художников и Китайского института живописи и искусств:

– Сейчас всё может быть – какие еще комментарии? Профессиональные критерии отсутствуют. Они, вернее, не востребованы. Но я вообще посоветовался бы с историками насчет красно-зеленого цвета на стеле, посвященной погибшим в Великую Отечественную войну. Насколько известно, люди шли в атаку и погибали под красным флагом, а не под красно-зеленым. Есть ли документальные свидетельства, что под флагом БССР совершались военные действия советских солдат и офицеров в годы войны? Я с такими фото- и видеодокументами не знаком. Поэтому, если бы стелу покрасили в красный цвет, можно было бы еще о чем-то говорить. А так – художественная безвкусица, да еще и нарушение исторической правды. Печально.



### Армен САРДАРОВ, доктор архитектуры, декан архитектурного факультета БНТУ:



– Во-первых, надо узнать является ли монумент в Мостах архитектурным памятником. Каков его статус? Если монумент признан памятником, то все изменения, конечно, должны быть согласованы с определенными структурами. Во-вторых, о материале: красить гранит – это совершенная дикость. А вот штукатурку красить можно и надо. Оштукатуренные поверхности нуждаются в уходе. Очень тяжело мне об этом говорить, потому что я не видел стелу в реальности. И потом, я не хочу политизировать любую инициативу. С точки зрения хозяйственников – это обычное стремление сделать среду ярче, живее. А вообще-то у нас это проблема остро стоит – мы слишком много красим в архитектуре. А это деликатный момент, и каждый случай нужно рассматривать отдельно.

**Елена МОЛОЧКО.**

ВОТ ЭТО ДА!

# Бельгийский фермер случайно передвинул границу Франции

*Фермер из Бельгии вызвал ажиотаж после неумышленного перекроя границы с Францией.*

На изменение границы обратил внимание местный краевед, который гулял по лесу и заметил, что камень, который обозначает границу между двумя странами, переместился на 2,29 метра.

Бельгийский фермер, очевидно, раздраженный камнем на пути его трактора, переместил его внутрь французской территории.

Вместо того чтобы вызвать международный скандал, инцидент вызвал улыбки по обе стороны границы.

*«Он сделал Бельгию больше, а Францию меньше, это не хорошая идея»,* – заявил Давид Лаво, мэр бельгийской деревни Еркевлинн. Такой шаг создал головную боль частным землевладельцам, отметил он, не говоря уже о соседних государствах.

Граница между Францией и современной Бельгией простирается на 620 километров. Она была официально создана в соответствии с Кортрийским договором, подписанным в 1820 году после поражения Наполеона при Ватерлоо пятью годами ранее. Камень датируется 1819 годом, когда граница была впервые обозначена.

*«Я рад, мой город стал больше. Но мэр Бузиньи-сюр-Рок с этим не согласен»,* – добавил бельгийский мэр со смехом.

*«Мы должны избежать новой пограничной войны»,* – сказал в шутку мэр соседнего французского села Орели Велонек.

Местные власти Бельгии планируют связаться с фермером и попросить его вернуть камень на место. Если этого не случится, дело может попасть в Министерство иностранных дел Бельгии, которое будет вынуждено созвать франко-бельгийскую пограничную комиссию, которая бездействовала с 1930 года.

Давид Лаво отметил, что фермеру также может грозить уголовное обвинение, если он не вернет камень.

*«Если он проявит добрую волю, у него не будет проблем, мы урегулируем этот вопрос полюбовно»,* – сказал он бельгийскому сайту *Sudinfo*.

МАРШРУТЫ

# Хочу в Болгарию, на море!



*Слышала, что Болгария с 1 мая открыла границы для белорусов. А нужно ли перед поездкой делать ПЦР-тест?*
**Светлана РУТКЕВИЧ, Минск.**

Болгария действительно будет принимать белорусских туристов при условии наличия одного из документов, подтверждающих:

- *полный курс вакцинирования, или*
- *перенесенное ранее заболевание COVID-19, или*
- *отрицательный PCR-тест.*

**Вот какую информацию по поводу поездки в Болгарию предоставляет своим клиентам туристическая компания «Ростинг».**

## 1. Вакцинация

Если турист прошел полный курс вакцинирования, после истечения 14-дневного срока после введения последней дозы вакцины посетить Болгарию можно без сдачи PCR-теста. Полный курс вакцинирования считается пройденным, если были проведены все этапы ввода вакцины в организм человека.

*В данном случае при себе необходимо иметь подтверждающий документ о вакцинировании (оригинал). Документ должен содержать ФИО на латинице в соответствии с документом, удостоверяющим личность, дату рождения, даты, когда введены вакцины, торговое наименование и номер партии поставленной вакцины, наименование производителя, страну, где выдан документ, и название организации, выдавшей документ.*

## Список разрешенных вакцин:

| Торговое наименование вакцины, согласно разрешению для использования в ЕС | Наименование производителя | Полная схема вакцинации |
|---|---|---|
| Comirnaty/ BNT162b2 | BioNTech/Manufacturing/GmbH/ Pfizer-Biontech | 2 дозы |
| Vaxzevria/ AZD1222 | AstraZeneca AB | 2 дозы |
| AZD1222 | SK Bioscience Co Ltd | 2 дозы |
| Moderna / mRNA-1273 | MODERNA BIOTECH | 2 дозы |
| Janssen / Ad26.COV2.S | Janssen-Cilag/International/NV | 1 доза |
| Covishield/(ChAdOx1_nCoV-19) | Serum Institute of India | 2 дозы |
| SARS-CoV-2 Vaccine (Vero Cell), Inactivated (InCoV) | Sinopharm / BIBP1 | 2 дозы |
| SARS-CoV-2 / Vaccine (Vero Cell), Inactivated (InCoV) | Sinovac Biotech Ltd. | 2 дозы |
| Sputnik V | The Gamaleya National Center of Epidemiology and Microbiology | 2 дозы |

## 2. Документ о перенесенном заболевании COVID-19

Документ о положительном результате теста PCR или экспресс-теста на антиген на COVID-19 – для лиц, переболевших COVID-19, в период от 15 до 180 дней с даты проведенного исследования.

*Документ должен содержать ФИО в соответствии с документом, удостоверяющим личность, данные о лаборатории, которая провела тест (наименование, адрес или другие контактные данные), дату проведения исследования, метод теста (PCR) или экспресс-тест на антиген (RAT), прописанные латиницей, с положительным результатом (Positive).*

## 3. Отрицательный PCR-тест

Наличие отрицательного результата теста PCR, проведенного за 72 часа до въезда в страну, или отрицательного экспресс-теста на антиген, проведенного за 48 часов до въезда в страну, разрешает въезд гражданам Республики Беларусь на территорию Республики Болгария.

*Документ, показывающий отрицательный результат, должен содержать ФИО в соответствии с документом, удостоверяющим личность, данные о лаборатории, которая провела тест (наименование, адрес или другие контактные данные), дату проведения теста PCR, метод теста (PCR) или экспресс-тест на антиген, прописанные латиницей, и отрицательный результат (Negative).*

«Однако из-за того, что меры и ограничения, действующие в зарубежных странах, постоянно меняются, информация по условиям въезда, а также и иные тонкости путешествий, могут меняться ближе к дате вылета», – информируют в «Ростинге».

**Алина ВЕТРОВА.**

ДЫПКУР'ЕР

# Французскі пасол Нікаля дэ Лакост бярэ ўрокі беларускай мовы

*Новы пасол Францыі прыехаў у Беларусь восенню мінулага года і ўручыў копіі даверчых грамат міністру замежных спраў Уладзіміру Макею. З тых часоў Нікаля дэ Лакост правёў нямала сустрэч з прадстаўнікамі самых розных сфер – ад палітыкаў да бізнесменаў.*



Нікаля дэ Лакост перад тым, як прыехаць у Мінск, пагутарыў са сваімі калегамі-дыпламатамі, якія працавалі ў Беларусі. Амаль кожны даў яму параду, парэкамендаваў, на што звярнуць увагу.

Паколькі Нікаля дэ Лакост яшчэ не ўручыў даверчыя граматы кіраўніку дзяржавы, то яго мандат трохі абмежаваны: напрыклад, ён пакуль не можа даваць інтэрв'ю.

У Беларусь у бліжэйшы час будуць прыбываць новыя дыпламаты, у тым ліку і з еўрапейскіх краін. Ці маюць яны намер ўручаць даверчыя граматы Аляксандру Лукашэнку? Бо Еўропа і Амерыка, як вядома, не прызналі яго законна абраным прэзідэнтам.

У амбасадзе Францыі кажуць, што дата цырымоніі ўручэння даверчых грамат кіраўніку дзяржавы пакуль не прызначана. А калі пра яе стане вядома, дыпламат паведаміць пра гэта ўраду сваёй краіны – менавіта ён будзе прымаць рашэнне з гэтай нагоды.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі Нікаля дэ Лакост практычна без акцэнту гаворыць на рускай і беларускай мовах – гэта вельмі спрашчае камунікацыю і дыстанцыю. Ён доўгі час жыў і працаваў у Польшчы, мае дыплом са спецыялізацыяй па рускай мове. Магчыма, таму і беларуская мова даецца яму адносна лёгка: дыпламат выкарыстоўвае ў сваіх прамовах нават дыялектныя выразы! Тым не менш Нікаля дэ Лакост бярэ некалькі ўрокаў беларускай у тыдзень. Гаворыць, што падчас шматлікіх сустрэч заўважае, як рэзка змяняецца стаўленне людзей да яго, калі ён пераходзіць на беларускую мову. Дзіўна, але падчас афіцыйных сустрэч пасля яго выступленняў на мову пераходзяць нават чыноўнікі і бізнесмены: маўляў, калі ўжо француз можа, то нам тым больш нельга тварам у бруд!

Дарэчы, на канец мая запланавана публічная лекцыя Нікаля дэ Лакоста *«Францyа дэ Кальер, або мастацтва перамоў: дыпламатыя ўчора і сёння»*.

ПАЙМЕННА

# З кім і пра што гаварылі?

Колькасць сустрэч, якія ўжо правёў новы французскі амбасадар, сапраўды уражвае! Культурныя дзеячы, палітыкі, журналісты, бізнесмены, чыноўнікі! Кожны дзень – новыя знаёмствы. Пры гэтым Нікаля дэ Лакост паспявае наведаць некаторыя гучныя судовыя справы, ездзіць у рэгіёны.

Вось некаторыя асобы, з якімі пазнаёміўся дыпламат за апошні час.

Французскі амбасадар сустрэўся з вядомым бізнесменам, стваральнікам гандлёвай сеткі «Карона» **Паўлам Тапузідзісам** – абмяркоўвалі праекты французска-беларускага супрацоўніцтва ў галіне прыцягнення французскіх брэндаў у гандлёвую сетку «Карона».

З дэканам факультэта міжнародных адносін **Віктарам Шадурскім** Нікаля дэ Лакост сустрэўся літаральна за дзень да яго хуткай і таямнічай адстаўкі – на факультэце дагэтуль успамінаюць пра гэта. Хоць Віктар Генадзьевіч абмяркоўваў з дыпламатам не палітыку, а магчымасць распрацоўкі праектаў супрацоўніцтва і абменаў ва ўмовах пандэміі, уключаючы выкарыстанне адаптаваных тэхнічных сродкаў.

З ўпаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцяў **Аляксандрам Румакам** француз закрануў тэму польскай меншасці ў Беларусі, а таксама цяжкасцяў, з якімі сутыкаецца царква «Новае жыццё» з лютага 2021 года.

З былым сенатарам, а цяпер – выканаўчым дырэктарам рэспубліканскага Фонду садзейнічання развіццю прадпрымальніцтва ў Беларусі **Тацянай Быкавай** абмяркоўвалі інвестыцыйны клімат і прынцыпе папраўкі ў нацыянальнае заканадаўства, якія спрыяюць прыходу замежных інвестараў на беларускі рынак, а таксама цяжкасці, з якімі сутыкаюцца замежныя прадпрыемствы ў Беларусі, ролю дзяржавы ў сістэме рэгулявання коштаў.

З **Яўгенам Баскіным**, заснавальнікам і кіраўніком групы кампаній «Сервалюкс», якая спецыялізуецца на вытворчасці і продажы прадуктаў сельскагаспадарчага прызначэння, казалі аб пастаўках французскага абсталявання.

З кіраўніком Партыі БНФ **Рыгорам Кастусёвым** і старшынёй незарэгістраванага праваабарончага цэнтра «Вясна» **Алесем Бяляцкім** гаварылі пра палітычныя настроі пасля прэзідэнцкіх выбараў і сітуацыю з правамі чалавека.

А са старшынёй праўлення «Прыёрбанка» **Сяргеем Касцючэнкам** – пра перспектывы для краіны на 2021 год, праекты французска-беларускага супрацоўніцтва ў галіне эканомікі і культуры.

Экс-кіраўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі, дырэктар цэнтра «Еўрапейскі дыялог» **Анатоль Лябедзька** падзяліўся з «Народнай Воляй» сваімі ўражаннямі ад сустрэчы з французскім пасолам.

*«Мы размаўлялі крыху больш за гадзіну,* – гаворыць Анатоль Уладзіміравіч. – *Ініцыятыва сустрэчы сыходзіла ад французскага боку, і я з радасцю згадзіўся, таму што хацелася праінфармаваць прадстаўнікоў дыпкорпуса пра тое, як ідзе праца над праектам Канстытуцыі новай Беларусі.*



З Рыгорам Кастусёвым.



З Паўлам Тапузідзісам.

*Нікаля дэ Лакост здаўся мне вельмі жывым дыпламатам, з вялізнай цікаўнасцю да краіны, гісторыі і ўсяго таго, што тут адбываецца. Здзівіла, што ён ужо валодае беларускай мовай. Ён нават папрасіў, каб я размаўляў з ім па-беларуску – гэта было для мяне першым пазітыўным шокам.*

*Нягледзячы на тое, што амбасадар знаходзіцца тут, калі не памыляюся, з лістапада мінулага года, ён глыбока пагрузіўся ў нашу рэчаіснасць, са многімі пазнаёміўся. І відаць, што перад тым, як сюды прыехаць, ён актыўна штудзіраваў краіну, а зараз таксама актыўна спрабуе яе спазнаць. Ён папрасіў выслаць яму наш праект Канстытуцыі, сам прапанаваў зрабіць сумеснае фота. Такія быццам бы дробныя моманты, але з іх складваецца шыкоўны партрэт!»*

З АСАБІСТАЙ СПРАВЫ

## Бацька чатырох дзяцей!

Нікаля дэ Буян дэ Лакост нарадзіўся 29 жніўня 1964 года.

***Адукацыя***

Дыплом па англійскай і польскай мовах, дыплом аб вышэйшай адукацыі са спецыялізацыяй «Краіназнаўства і мовы ўсходніх краін (руская мова)».

***Прафесійная дзейнасць***

1990–1994 гг. – Французскі цэнтр асветы і інфармавання кіруючых кадраў у Варшаве.

1994–1995 гг. – аташэ па культуры пасольства Францыі ў Бухарэсце.

1995–1997 гг. – супрацоўнік аддзела па стратэгічных справах, пытаннях бяспекі і раззбраення МЗС Францыі.

1997–2001 гг. – другі сакратар Пасольства Францыі ў Варшаве.

2001–2005 гг. – другі сакратар пры пастаянным прадстаўніцтве Францыі пры АБСЕ ў Вене.

2005–2009 гг. – намеснік прэс-сакратара ў цэнтральнай адміністрацыі МЗС Францыі.

2009–2012 гг. – першы саветнік пасольства Францыі ў Празе.

2012–2016 гг. – першы саветнік пасольства Францыі ў Маскве.

2016–2017 гг. – кіраўнік аддзела па справах Каўказа і Цэнтральнай Азіі Упраўлення кантынентальнай Еўропы.

2017–2020 гг. – намеснік кіраўніка Упраўлення кантынентальнай Еўропы Галоўнага ўпраўлення па палітычных пытаннях і бяспецы.

З 2020 года – Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь

***Асабістае***

Жанаты, мае 4 дзяцей.

**Марына КОКТЫШ.**

